Opłatą pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12.—6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 3 (16). Вільня, Серада, 13-га студзеня 1926 г. Год II.



## „Усходняе Лёкарно".

Старая Расейская Імпэрыя прадстаўляла такі дзяржаўны арганізм, паасобныя часьці якога былі зьвязаны ў вадно цэлае *гвалтам, насільствам.* Аднак, гэтыя гвалты і захваты аружнай сілай нацыянальна чужых зямель рабіліся затым, што расейцы, як моцны і здольны да разьвіцьця і разросту народ, імкнуліся перад усім да здабыцьця для сябе вольнага доступу да мора. Гэта было ім патрэбна дзеля разьвіцьця іх эканамічнага жыцьця — іх торговых зносінаў з другімі краямі і дзяржавамі.

Зусім натуральна, што падбіваныя аружжам землі і народы давалі адпор гэтым захватніцкім імкненьням Расеі, жадаючы для сябе волі і свабоднага разьвіцьця—эканамічнага і нацыянальнага. Аднак, з ходам часу эканамічнае жыцьцё захопленых Расеяй „акраін" (папольску „крэсаў") гэтак цесна зьвязалася з жыцьцём паняволіўшых іх чыста расейскіх зямель, што гэта ў вельмі балючай для іх форме выяўляецца ў іх жыцьці і цяпер, калі Польшча, Літва, Латвія, Эстонія адзяліліся ад Расеі і стварылі незалежныя гаспадарствы. Пазбаўленыя старых вялізарных рынкаў збыту для сваіх вырабаў у неаб'ятнай Расеі, а таксама падвозу стуль сыр'я, неабходнага дзеля прамысловасьці, — усе гэтыя краіны перажываюць цяпер востры эканамічны крызіс і шукаюць шляхоў да выхаду з яго.

Мы бачым перад усім імкненьне надбалтыцкіх рэспублік—Літвы, Латвіі і Эстоніі — да самага цеснага эканамічна-гаспадарчага аб'яднаньня паміж імі. Першыя аб'ядналіся Латвія і Эстонія, якія зусім скасавалі паміж сабой таможанную (мытную) граніцу, даўшы ўзаемна права вольнага руху грамадзянам і таварам гэтых краёў на сваёй зямлі. У тымжа кірунку йдуць і літоўска-латышскія адносіны,—і можна спадзявацца, што ў самым хуткім часе тры балтыцкія рэспублікі будуць прадстаўляць цесны эканамічны саюз.

Ведама, гэты саюз сам па сабе не ратуе палажэньня гэтых краёў. Заняўшы ўзьбярэжжа мора вузкою палоскаю, яны могуць бясьпечна жыць і разьвівацца толькі тады, калі наладзяць, як сьлед, свае эканамічныя адносіны з тымі вялізарнымі прасторамі сухапуцьця, якія яны адрэзалі ад мора,—гэта знача з Саюзам Радавых Рэспублік народаў былое Расеі. Да ўстанаўленьня торговых зносін з гэным саюзам імкнецца ня ў меншай меры і Польшча.

Беларусь і Украіна, якія былі абвясьцілі сябе таксама незалежнымі гаспадарствамі, у той мамэнт, як улада ў іх межах перайшла ў рукі камуністаў, увайшлі ў склад Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, як самастойныя адзінкі. Такім чынам гэтыя дзьве краіны апынуліся ізноў ня толькі ў гаспадарчым саюзе з Масквой, але і ў палітычным. Але такі палітычны саюз аказаўся магчымым для іх толькі дзеля дзьвюх акалічнасьцяў: перад усім у іх быў заведзены такі-ж самы, як у Радавай Расеі, палітычны лад; а з другога боку—Масква, якая за цароў імкнулася да поўнага нацыянальнага зьніштажэньня ўсіх „інародцаў", выраклася старое палітыкі і, будуючы новы сацыяльны лад, абаперла яго на прызнаньні права кожнага народу на нацыянальнае самавызначэньне.

Паскольку гэткім чынам для тых новых рэспублік, якія асталіся незалежнымі, няма страху зблізіцца з сучаснай Масквой з увагі на новую нацыянальную палітыку яе, пастольку іх дзеліць справа *сацыяльнага ладу*. Дзяржавы буржуазныя, у якіх захаваўся стары лад, ня могуць бліжэй зыйсьціся з саюзам рэспублік, дзе замест буржуазіі запанавалі работнікі і сяляне: такое зближэньне пагражае і ім сацыяльнай перастройкай, якой, натуральна, пануючая ў іх буржуазія ня можа хацець! І вось сярод акружаючых ССРР буржуазных суседзяў мы бачым унутраную барацьбу паміж двумя імкненьнямі: да *гаспадарчага зближэньня з ССРР* і—да *палітычнага адмежаваньня* ад апошняга.

Польшча прынамся цьвёрда стаіць на гэтым становішчы. Але з боку Літвы бачым ужо першы крок да *палітычнага зближэньня* з магутнай усходняй суседкай. Надовячы польскія газэты падалі вестку, быццам у Літве паднята пытаньне аб *„усходнім Лёкарно"*,—знача, аб стварэньні такога палітычнага „пакту" балтыцкіх рэспублік з ССРР і Нямеччынай, які падпісаны ў Лёкарно між буржуазнымі дзяржавамі Захаду.

Праўда, у літвіноў, здаецца, істнуе нейкая фантастычная надзея на тое, што дарогай праз Маскву яны вернуцца ў... Вільню! Але, як-бы там ні было, ідэя „усходняга Лёкарно" — гэта першы крок да палітычнага зближэньня Балтыкі з ССРР, на якім гэтае зближэньне ўжо *не магло-бы доўга затрымацца...*

## Кангрэс „чырвонай гварды" эндэцкага ураду.

*(Агульны зьезд дэлегатаў Польскай Сацыялістычнай Партыі).*

Як ведама, пэпэсаўскія палітыканы зрабілі ўрадавую хаўру з эндэкамі і пястоўцамі, не запытаўшыся нават у шырокіх масаў польскіх работнікаў, ад імя якіх маюць прэтэнсію выступаць у Сойме. Але пэпэсы любяць, каб у іх усё было таксама „па-эўрапэйску", як у найлепшых сацыялістычных дамох Захаду. І вось, пасьля стварэньня на свой адказ „лёкарнскай умовы" з эндэкамі, павадыры ППС склікалі свой „партыйны парлямант", каб за ўсялякую цану „ратыфікаваць" і (зацьвярдзіць) гэты хаўрус польскага „сацыялізму" з польскай рэакцыяй...

Дзеля выпаўненьня гэтай цяжкай задачы — „замыдленьня" вочаў работніцкай клясе і апраўданьня здрады яе інтарэсаў кіраўнікамі партыі,— былі змабілізаваны найлепшыя аратарскія сілы ордэну гэтых „чырвоных езуітаў" у Польшчы... Праца гэтых павадыроў была на канкрэсе ўжо значна больш лёгкай, як на мясцох, дзе без дапамогі паліцыі і шпікоў пэпэсы даўно ўжо ня могуць даць рады з работніцкай апазіцыяй... Недарма-ж іх урадавы орган дэлікатна называе польскіх паліцыянтаў „таварышамі ў мундзірах", даючы мейсца іхнім пісьмам у рэдакцыю і артыкулам.

### Уступнае слова п. Дашыньскага.

Галоўным дырыжорам кангрэсу быў п. Дашыньскі, які ў сваёй прамове, адкрыўшай зьезд, ясна паставіў гэтую задачу. Ён сьцьвярдзіў, што хаўрус з эндэцыяй запрапанаваў Галоўнай Радзе Партыі Клюб паслоў-пэпэсаў; тая прапазіцыю адобрыла, і цяпер трэба, каб усё гэта аканчальна асьвяціла „найвышэйшая паўнамоцная ўлада партыі"—Кангрэс дэлегатаў. Дашыньскі сьцьвярдзіў **катастрафічны стан работніцкай клясы ў Польшчы** пры усё ўзрастаючым безрабоцьці і спадку валюты. Але—не на тое-ж „паслы работніцкія" у Сойме, каб распачаць над работніцкай бядой! — сказаў ён.—Паслы й павадыры не паддаюцца ані роспачы, ані стыхіі, але... бяруць на сябе адказнасьць, каб толькі „работніцкая кляса **утрымалася пры жыцьці**"... І вось — для таго, каб „утрымаць пры жыцьці" работнікаў, **ратуючы дабрабыт польскай буржуазіі**, і ўвайшлі два пэпэсаўскія міністры ў эндэцка-пястоўскі габінэт Скшыньскага...

### Прывітаньні заграпічных гасьцей.

З прамоваў заграпічных гасьцей пэпэсаўскага кангрэсу найбольш цікавымі для нас зьяўляюцца прывітаньні расейскіх сацыялістаў—сацыял-дэмакрата Дана і сацыяліста-рэвалюцыянэра Чэрнова.

Абодва яны горача віталі партыю, **адказную за польскі ўрад** і за ўсе крыўды яго палітыкі проці меншасьцяў.

„Таварыш Дан", вітаючы пэцээсаўцаў у іх „вызваленай і вольнай дзяржаве", ня толькі нічога ня кажа аб тым, што сучасная Польшча гвалтам далучыла да сябе беларускія, украінскія і літоўскія землі, не запытаўшыся аб волі іх насяленьня, але яшчэ мае „чало" казаць, што калегі Стан. Грабскага і Керніка „верна выпаўнілі лезунгі аб самаазначэньні народаў"...

Ня пікнуў, зразумела, нічога аб гвалтах над няпольскім сялянствам у Польшчы і другі расейскі госьць польскага ўрадавага сацыялізму, п. Чэрнов, колішні павадыр партыі, якая ставіла сабе першай мэтай абарону сацыяльных правоў і інтэрэсаў—„усерасейскага сялянства"... І гэты расейскі пэпэсавец „палітычна" прамаўчаў аб палажэньні беларускіх і ўкраінскіх сялян у панска-пэпэсаўскай Польшчы... Для яго істнуюць толькі два ворагі: фашызм і бальшавізм,— а проціселянскі і проціработніцкі саюз Морачэўскіх з Грабскімі і Зьдзеховскімі п. Чэрнов лічыць „адказнай працай—на карысьць ня толькі польскай, але і замежнай работніцкай клясы"...

### Прамова п. Пэрля.

Ад імя Цэнтральнага Камітэту ППС даклад зрабіў пас. Пэрль.

Гэты п. Пэрль, можа, найляпей выказаў усю ідэалёгію польскіх сацыялістаў. Ён сьцьвярдзіў, што пэпэсы ня **хочуць цяпер рэвалюцыі**, бо яна ня дасьць **ім** улады... Ён сказаў яшчэ ясьней, што „ня хоча, каб рэвалюцыю ў Польшчы рабіла работніцкая кляса, якая яшчэ **не дарасла да ўлады**"... Трэба, каб буржуазія сьпярша ўсё стварыла для работнікаў, **а пасьля** ўсё гэтае багацьце і ўладу возьмуць лёгка работнікі ў свае рукі. Калі будзе гэтае „пасьля", п. Пэрль не сказаў. Але ясна, што пакуль-што трэба **падтрымаць буржуазію і яе ўладу,** крышачку якое дасталі сабе і правадыры пэпэсаў...

Але і гэты афіцыяльны аптыміст партыі прызнае, што „праступленьні польскай буржуазіі (з якой злучыліся ў адным урадзе пэпэсы!) могуць выклікаць нават проці волі ППС катастрофу, ці папросту—рэвалюцыю... Дык ясна, што гэтая рэвалюцыя выбухне **тады** зусім паміма пэпэсаў і хутка „перакоціцца праз іх галаву".

У канцы прамовы п. Пэрль сьцьвярдзіў, што „лявіцы ў Польшчы, лявіцы, як аднаго моцна

папаўся ў тым, што за некалькі тысяч даляраў прадаў варшаўскім камуністам 200 штук прозьвішчаў выдатнейшых агентаў і дабравольцаў тайнай палітычнай паліцыі.

Цікава, што асьпірант (ці кандыдат на службу ў паліцыі!) п. Павловскі меў пад сваім загадам вялізарны штат агентаў. Яшчэ цікаўней, што якраз гэтаму асьпіранту Павловскаму шэф палітычнай паліцыі Варшавы даручаў галоўную каманду над... аховай асобы п. Прэзыдэнта ў тэатрах м. Варшавы!..

# Заграніцай.

### „Кулямёты самыя страляюць".

У Рызе (Латвія) напярэдадні Новага Году ў пяхотных казармах вечарам раптам пачалі страляць кулямёты. Праз 2 гадзіны ізноў—якраз у поўнач Новага Году—ізноў пачаўся абстрэл з кулямётаў праяжджаўшых афіцэраў. Арыштавалі некалькі жаўнераў, але ўсе вінавацяць—„бальшавіцкія настроі ў войску".

### Новы выбарны закон у Літве.

Літоўскі ўрад апрацаваў новы выбарны закон. Лічба паслоў у Сойм зьменшана да 68. Асаблівасьцю новага закона зьяўляецца рад абмежаваньняў для меншасьцяў. Напрыклад: малая група, ня маючая пэўнасьці (ў вачох адміністрацыі..), што атрымае мандат (выбярэць пасла), павінна злажыць камісіі залог—на пакрыцьцё выдаткаў па выбарам.

### Да афэры вэнгерскіх манархістаў фальшываманэтчыкаў.

Пасьля чысьленых запярэчаньняў вэнгерскі ўрад павінен быў нарэшце прызнаць, што ў фабрыкацыі фальшывых францускіх банкнотаў прымалі ўчасьце важнейшыя ўрадоўцы дзяржавы. У афіцыяльным камунікаце ўрад сцьвярджае, што галоўным правадыром банды быў галава вэнгерскіх манархістаў, князь Віндзішгрэц, што галоўным яго памоцнікам зьяўляўся сам галава вэнгерскай паліцыі, п. Надэссі, і што ў друкаваньні 1.000-франкавых білетаў прымаў галоўнае ўчасьце тэхнік дзяржаўнага Картаграфічнага Інстытуту п. Герэ.

Усяго было надрукавана да 30.000 штук 1.000-франкавых банкнотаў.

Сьледзтва выкрывае прыналежнасьць да гэтай „банды" ўсё большага кола асобаў — найвышэйшага паходжаньня і блізкіх да пануючае ў Вэнгрыі абшарніцка-буржуазнае ўлады!..

### „Гэраічная місія".

Англійская Незалежная Партыя Працы заявіла праз сваіх правадыроў, што ставіць сабе вялікую задачу: памірыць і аб'яднаць у адзіны Інтэрнацыянал — сацыялістаў і камуністаў усяго сьвету. Але ў гэтую гэраічную місію англійскай работніцкай партыі (дый толькі меншай часткі арганізаванага англійскага пралетарыяту) ані ў удачу яе ня вельмі штосьці вераць як у Англіі, таксама і наагул у Эўропе, бо-ж сацыялісты з камуністамі залішне разыйшліся і заеліся ў узаемнай барацьбе. Пэўна-ж, — магло-б дайсьці да паразуменьня, калі-б сацыялісты шчыра станулі на грунт тых лёзунгаў (аб уладзе працоўных), якімі яны толькі страшаць буржуазію.

### Арышт правадыра грэцкіх камуністаў.

У Афінах (сталіца Грэцыі) арыштаваны расеец Петровічковскій, які меў быццам стануць на чале камуністычнага руху ў Грэцыі.

### Новы ўрад у Фінляндыі.

Новы габінэт, які толькі-што сфармаваўся ў Фінляндыі, таксама, як і папярэдні, зложаны з прадстаўнікоў буйнейшых земляўласьнікаў. У склад урадавай коаліцыі ўвайшлі толькі дзьве партыі: аграрыі і кансэрватары.

Дзіва, што у гэткім урадзе адмовіліся прыняць учасьце ня толькі сацыялісты (бо-ж там усё-ж такі — не пэпэсы!), але і прагрэсісты.

З гэтага відаць, што ніякіх зьменаў у палітыцы Фінляндыі новы ўрад ня зробіць.

### Турцыя ў справе Мосулю.

Турэцкі ўрад апублікаваў заяву аб маючых пачацца перагаворах з Англіяй у справе Мосулю. Турцыя лічыць, што справа Мосулю можа абгаварывацца не на падставе пастановы Рады Лігі народаў, але — у парадку вольнага паразуменьня Турцыі з Англіяй.

### Халера ў Індыі.

У Індыі выбухнула эпідэмія халеры, якая хутка пашыраецца.

---

# Аб чым пішуць.

### Мёртванароджаная ідэя.

Як памятаюць усе нашы выбаршчыкі ў польскі Сойм і Сэнат, у выбарнай плятформе Беларускага Цантральнага Выбарнага Камітэту—сярод іншых дамаганьняў нацыянальнага, палітычнага і сацыяльнага характару — было і дамаганьне **аўтаноміі для Заходняе Беларусі.** Аднак, беларускае соймавае прадстаўніцтва вельмі хутка прыйшло да перакананьня, што беларускае пытаньне пад уладаю Польшчы ня можа быць і ня будзе разьвязана ў пажаданым для беларускіх працоўных масаў духу. І вось беларускія паслы пакінулі думку аб падачы ў Сойм прыгатаванага імі праекту аўтаноміі Заходняе Беларусі, як бязмэтнага і пазбаўленага ўсялякае надзеі на зьдзейсьненьне. Заместа шуканьня разьвязкі беларускага пытаньня ў межах Польшчы шляхам аўтаноміі, беларускія паслы выставілі шмат далей сягаючае дамаганьне **права на самавызначэньне** — вольнае і нязьвязанае існуючымі ў Польшчы законамі.

Характэрна, што цяпер за думку аб аўтаноміі ўзяліся польскія „дэмакраты" кірунку пана Хамінскага. Прынамся орган гэтае групы „Kurjer Wileński" ў сваей перадавіцы ў нядзельным нумары ў сувязі з праектаванай рэформай адміністрацыі ў Польшчы піша даслоўна гэтак:

„Прынцыпы, на якіх трэ абаперціся, прыступаючы да рэформы нашае адміністрацыі, ёсьць: **грамадзкасьць і дэцэнтралізацыя.** Гэта павінна выявіцца ў прыцягіваньні да краёвае адміністрацыі тутэйшых дзеячоў і ў залежнасьці яе ў пэўных азначаных галінах ад **краёвага прадстаўніцтва.**

Тасаваньне аднолькавых, укладаных і пісаных у цэнтры, мэтадаў і загадаў да краін з такім асаблівым і самавітым характарам, як нашая, вядзе не да цясьнейшага аб'яднаньня іх, а да нечага прост процілежнага. Адміністрацыя, недатарнаваная да мяйсцовых варункаў, зьяўляецца вялізным цяжарам, які прыгнятае насяленьне і адварачывае яго ад дзяржавы. Канечна патрэбна дыфэрэнцыяцыя адміністрацыі з таго пагляду, каб яе рэгулявала прадстаўнічая ўстанова, вытвараная грамадзянамі краю.

Гэткая рэформа можа быць праведзена на падставе марцовае канстытуцыі, якая прадугледжвае шырокае ваяводзкае самаўпраўленьне і згуртаваньне гэтых самаўрадаў у правінцыяльныя саюзы. Ідзецца аб тое, каб у арганізацыю гэтых самаўрадаў улажыць зьмест, які-б адказваў пастаўленым заданьням. Істнуючыя ў нас цяпер так-звавыя самаўрады прадстаўляюць карыкатуру, нікога не здаваляючую і, што йшчэ горш, вельмі каштоўную і бязмэтную".

Орган польскіх дэмакратаў заклікае ўсіх паслоў з нашага краю, каб выступілі супольна дзеля правядзеньня ў жыцьцё гэтае думкі, якая і прадстаўляе ня што іншае, як **вельмі вузка ўзятую краёвую аўтаномію.**

Не ўваходзячы ў падрабязны разгляд ідэі паноў дэмакратаў, якая зьяўляецца бязумоўна нерэальнай і таксама нікога здаволіць ня можа, мы адзначым толькі адно.

„Kur. Wil." называе карыкатурай **істнуючыя ў нас цяпер** так-званыя самаўрады, якбыццам даючы разумець, што **новыя самаўрады**, сфабрыкаваныя панам Кернікам і разгляданыя ў соймавых камісіях, прадстаўляюць **нешта лепшае.** Вось-жа гэтыя новыя „самаўрады", на якіх паны польскія дэмакраты маняцца абаперці краёвую аўтаномію, толькі **„ўводзяць у закон"** тую самую карыкатуру самаўпраўленьня, якая ў нас істнуе на падставе адміністрацыйнае самаволі...

Вось табе і аўтаномія!

### „Насіцелі вышэйшае культуры".

Эндэцкая Gaz. Warsz. Poranna" друкуе ў № 4 абразок нязвычайнае цемры, у якой жыве польскае сялянства ў „адраджонай" бацькаўшчыне:

„У вёсцы Велішэв, гміны Непорэнт, адзін з жыхароў яе, нейкі Станіслаў Стахнік, у якога ўжо дзесяць месяцаў хварэе жана Апалёнія, разам з братамі Янам і Антонам Менткімі, Октавай, Б. Плебанам, І. Бонтай, І. Дупскім і Л. Баршчэвскім, жыхарамі в. Велішэв, а так-жа з І. Олексакам, жыхарам в. Лайске, пайшлі ў хату Юзэфы Солтысовай і, зламаўшы замок, увайшлі туды і забралі з сабой жыхарку хаты. Напасьнікі разам з узятай жанчынай пайшлі грамадой у хату хворае Стахніковае, дзе распачалася страшэнная па сваей дзікасьці расправа над Солтысовай, напамінаючая сярэднявечныя мучэньні жанчын, западозраных у чарах. Ахвяру білі па твару, ды націскалі каленямі жывот, а матка хворае, Казімера Дупская, падставіла пад галаву катаванае мядніцу, у якую сьцякала кроў. Праз нейкі час спынілі біцьцё і крывёй, чарпанай з мядніцы, пачалі паіць і націраць хворую, пасьля абедзьвюх жанок, Стахніковую і Солтысовую, крапілі сьвянцонай вадой.

Гэтак „адчынялі" хваробу, якую, як прызнаў адзін з акалічных знахароў, нібы-то навяла Солтысовая на Стахніковую праз хлеб.

Вось, абразок, якога ў „някультурнай" Беларусі ўсё-ж не спаткаеш. Цяпер зразумелым робіцца тое „мастацтва" ў катаваньні, якое ў нас выяўляюць паліцыянты і агенты, насыланыя з „культурнае" Польшчы...

Дык вось, якую „культуру" маюць пашыраць сярод нас, цёмных, „высокакультурныя" польскія асаднікі!

# Хроніка.

**Аб пазыках з Белар. Каапарат. Банку ў Вільні.** Прыймаючы пад увагу, што Банк за апошні час атрымлівае многа пісем з рознымі запытаньнямі адносна паступленьня ў сябры Банку, пры гэтым тыя, хто пытаецца, часта не падаюць сваіх адрэсоў, Управа Банку просіць нас падаць да ведама ўсяго Беларускага грамадзянства тыя варункі, на якіх Банк выдае пазыкі і прыймае сяброў:

Беларускі Каапэратыўны Банк распачне сваю дапамогу крэдытам незаможным сялянам беларусам па заканчэньні мінулага 1925 абрахункавага году, г. з. прыблізна ў другой палавіне студзеня месяца г. г.

Пазыка будзе выдавацца ў суме да 250 злотых на працяг часу да 8-х месяцаў з налічэньнем на пазычаную суму $1^{1}/_{2}\%$ у месяц (г. зн. 1 зл. 50 гр. у месяц з кожнае пазычанае сотні).

Каб атрымаць пазыку ў нашым банку, трэба быць яго сябром, а дзеля гэтага трэба падпісаць дэклярацыю, якая пры гэтым перасылаецца і подпіс свой на ёй пасьведчыць у гміне (воласьці). Акром таго, трэба напісаць у банк заяву з просьбаю аб пазычцы той сумы, якая патрэбна з паданьнем прозьвішчаў двух жырантаў (паручыцеляў).

Адначасна з заяваю аб пазычцы трэба выслаць на 1 зл. 50 грош. паштовых марок, а такжа пасьведчаньне гміны аб стане гаспадаркі як таго, хто пазычае, так і тых, хто ручаецца: на гэтым пасьведчаньні мусяць быць сцьверджаны гмінай подпісы паручыцеляў.

Па атрыманьні з банку паведамленьня аб вызначанай пазычцы і вэксальнага блянку на гэтую суму, трэба яго падпісаць таму, хто пазычае, на запоўненым боку, а паручыцелям трэба падпісаць на адваротным (чыстым) баку ўпапярок вэксаля пасярэдзіне. Пасьля гэтага падпісаны такім чынам вэксаль трэба выслаць назад у банк заказным пісьмом. Па атрыманьні падпісанага вэксаля, банк вышле належныя грошы поштаю.

Калі-б хто захацеў, можа сам прывесьці вэксаль і атрымаць грошы беспасрэдна.

Поўны пай у Бел. Каап. Банку выносіць 50 злотых.

Каб лічыцца сябром банку, трэба ўнесьці ў лік паявога капіталу ня меней як 25 злотых і 5 злотых на арганізацыйныя расходы, а дзеля гэтага банк, высылаючы пазычаную суму, затрымае з яе:

1) На пай—25 злотых, 2) на арганізацыйныя расходы—5 зл., 3) за сяброўскую кніжку—60 грошаў і 4) належныя проценты за той час, на які выдана пазыка.

**Увага 1.** Пры выхадзе са складу сяброў банку паявыя грошы зварочваюцца, 5-жа злотых на арганізацыйныя расходы, 60 грошаў за кніжку, а такжа ёсьць ведама, і процэнты, набранныя за пазыку, назад ніколі не зварочваюцца.

**Увага 2.** Азначаны вышэй разьмер пазыкі ў паасобных выпадках можа быць павялічаны, але адначасна зьмяняецца і процэнтная стаўка.

**„Рэдукцыя" Вучыцялёў.** Газэты падаюць, што ў Вільні лічба вучыцельскіх сіл у польскіх пачаткавых школах мае быць зьменшана на 60 душ, і яны будуць пераведзены на правінцыю.

Ну, скарбу ад гэткае рэдукцыі лягчэй ня будзе!

Мы з свайго боку даведаліся, што **на адзін толькі Вялейскі павет**, які чуць ня ўвесь пагалоўна зажадаў беларускіх школ, падаючы прадугледжаныя законам 31 ліпня 1924 году дэклярацыі,— **пасылаецца сёлета 50 вучыцялёў-палякоў**, добра спрактыкаваных у справе апалячываньня... Вось гэта дык зусім „законны" адказ на масавае дамаганьне насяленьнем роднае беларускае школы!

Само сабой разумеецца, што ў-ва ўсей Заходняй Беларусі, ня гледзячы на 15.000 пададзеных дэклярацыяў, ад часу выданьня закону 31 ліпня 1924 году **польская ўлада не адчыніла ніводнае беларускае школы!** — Гэта ўжо „цьвёрдасьць прынцыпаў"...

**Каб чаго не даведаліся...** У віленскае кураторыум міністар асьветы прыслаў надовячы цыркуляр, забараняючы даваць прадстаўнікам прэсы якія-колечы статыстычныя даныя аб вучыцялёх і вучнях урадавых школ.

Відаць, п. Грабскі мае што ўкрываць навет ад... свайго-ж польскага грамадзянства!

**Да правядзеньня „зямельнай рэформы".** Рада Міністраў пастанавіла ўлажыць сьпісак маёнткаў, якія маюць быць распарцэляваны ў 1926 г.— усяго ў лічбе 50.000 гэктараў (гэктар—каля 9 дзесятых частках дзесяціны). Калі ў працягу году гэтая лічба гэктараў ня будзе распрадана абшарнікамі (зразумела-ж—па якой ім хочацца цане)— каму яны захочуць, тады ўжо міністар прыме меры дзеля прымусовай іх распрадажы — паводле правілаў новага закону.

Газэты паведамляюць, што на **Віленшчыну** з гэтых 50 тысячаў гэктараў прыходзіцца 4.000 гэктараў. На парцэляцыю пастаўлены, паміж іншымі, маёнткі: Лынтупы п. Бішэўскага—400 гэктараў, Понізова п. Кожэнеўскага—400 г.

У **Горадзеншчыне** з маёнткаў Сапегі і Браніцкага—па 500 гэктараў.

**Поступ „цывілізацыі".** „Wydzial Zdrowia" Віленска-Троцкага пав. паведамляе, што ў вёсцы Пралоўшчына пачалася эпідэмія плямістага тыфу-

су, а ў в. Косіне і навакол яе заўважана **масавае заражэньне вэнэрычнымі хваробамі.**

Вось дык запраўды „цывілізацыя йдзе“!...

**Арышт камуністаў у Беластоку.** Як падае карэспандэнт „Słowa“, 8 студзеня ў Беластоку на вагзале паліцыя арыштавала Хаіма Грандмана і двух братоў Курляндзкіх, якія прыехалі з Варшавы з чэмаданамі, напоўненымі камуністычнай літэратурай. У сувязі з гэтым адбыліся арышты і ў горадзе Беластоку.

**Камуністычныя праклямацыі.** Як падае Kur. Wil.“, гэтымі днямі ўначы невядомыя асобы ў ваколіцах Сьвянцян параскідалі камуністычныя праклямацыі з подпісам Цэнтральнага Выканаўчага К-ту Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі.

**Да справы Гурчына.** Міністар справядлівасьці прыслаў маршалку Сойму адказ на інтэрпэляцыю групы паслоў аб зладзействах у пракуратуры пры Віленск. Акружным Судзе. Міністар піша, што ён зараз-жа па атрыманьні даясеньня аб зладзействах падпракурора Гурчына загадаў зрабіць дысцыплінарнае (службовае) дазнаньне аб пракуроры Акр. Суда п. Галаўні (а ня толькі значыць аб яго „правай руцэ“—п. Гурчыне!) і зараз-жа адсунуў яго ад службы. Дазнаньне рабіў пракурор Вышэйшага Суда п. Міхаэліс. Вынікі яго працы і вырашаць лёс віленскіх пракурораў.

**Выракаюцца!** „Kur. Wil.“, які зьмясьціў пісьмо Павлюкевіча і ягоных „кумпанаў“ з брахнёй і лаянкай на Беларускі Нацыянальны Камітэт, цераз два тыдні „адумаўся“ і ў суботнім нумары зрабіў заяву, што гэнае пісьмо ня было празначана рэдакцыяй да друку і папала ў газэту праз недагляд...

Ну, лепш позна, чым ніколі! А вось рэдакцыя абшарніцкага „Słowa“ так і не надрукавала запярэчаньня грам. Луцкевіча аб сфальшаванай гутарцы з ім прадстаўніка гэнае газэты, якога грам. Луцкевіч у вочы ня бачыў...

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

У імя праўды не адмоўцеся зьмясьціць ніжэйпісанае:

У выпадкова трапіўшым да мяне № 8 „Беларускай Нівы“ за 12 сьнежня 1925 г. была зьмешчана заметка пад назовам „Вярнуўся на старую службу“, дзе гаворыцца аб маім нібыто супрацоўніцтве з п. Павлюкевічам па скліканьню нейкага яго зьезду.

Мушу зазначыць, што службаю сваею лічу працу на полі роднае культуры, чаго рабіць побач з Паўлюкевічам, — нядаўнім, як аказваецца, супрацоўнікам „строителя третьей России“ Б. Савінкова,—я ня змог, а праз гэта, парваўшы ўсялякія з ім адносіны яшчэ ў другой палове чэрвеня 1925 г., з 28-га таго-ж чэрвеня пражываю ў сваёй роднай вёсцы ў Горадзеншчыне, не закідаючы, пакольк магчыма, літэратурнае работы. Немагчымасьць скліканьня тады Цэнтр. Рады Бел. Т-ва „Прасьвета“ змусіла мяне проста перадаць справы гэтага Т-ва і паверыць замяшчэньне мяне, як Старшыні Т-ва, віцэ-прэзэсу Цэнтр. Рады п. Ў. Більдзюкевічу, аднаму з ініцыятараў залажэньня гэтае арганізацыі.

Усялякія плёткі пра мой з таго часу ўдзел у акцыі п. Павлюкевіча зьяўляюцца чыстае вады выдумкамі, бо праз кароткі час зносін з Павлюкевічам (мая быўшая тэхнічная праца, як журналіста, у закладзеным быўшым Грамадзянскім Сабраньнем „Грамадзкім Голасе“) я атрымаў уражаньне, што па сваёй псыхіцы Павлюкевіч тыпічны расейскі эмігрант, староньнік „Вялікае Расеі“, а на няшчаснай Беларусі проста спэкулюе.

Што датычыць гуляньня п. Павлюкевіча ў „Часовую Беларускую Раду“ (у склад сяброў якое я ніколі не ўваходзіў), дык гэта рэч вельмі лёгкая пры пэўных грошах, якімі распараджаецца, як толькі сам захоча, „прэзэс“ гэтае „рады“ п. Паўлюкевіч. „Рада“ яго—абсалютная фікцыя, ніколі нікім не выбіраная, каго Паўлюкевіч хоча, таго ў склад яе і „кооптуе“, само сабою, калі той згодзіцца.

Не магу ня выказаць свайго пераканаьня, што ніякіх зьездаў п. Паўлюкевічу ці яго „радзе“ склікаць немагчыма, а гульня ў „часовасьць“ будзе цягнуцца датуль, пакуль ён будзе мець на гэту гульню сякія-такія фонды. Як я памятую, дык склікаць зьезд паўлюкевічава „рада“ зьбіраецца ўжо 10 месяцаў...

Ясная рэч, што мне, ды і кожнаму беларускаму культурнаму працаўніку, ўва ўсей гэтай „часовасьці“ п. Паўлюкевіча рабіць няма чаго, бо з ім „працаваць“ змогуць толькі тыя, хто ніякае беларускае культурнае працы вясьці ня ўмее, ня можа, або проста й ня хоча.

Толькі немагчымасьць шырокае арганізацыі нашых нацыянальных масаў пазваляе п. Павлюкевічу беспардонна карыстацца чужым яго „русской душе“ беларускім народным імем, а матар'яльнае падтрымліваньне яго ўладамі дае яму магчымасьць гуляць у нейкую бясплодную палітыку, трубячы аб няістнуючых у беларускіх масах імкненьнях.

Прашу іншыя газэты перадрукаваць

**Макар Косьцевіч.**

4./I. 1926 г., в. Баброўня.

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы ў імя бесстароннасьці пісьмо б. фактычнага кіраўніка павлюкевічаўскага „Грамадзкага Голасу“ і старшыні „Прасьветы“, п. М. Косьцевіча, мы лічым сваім абавязкам адзначыць, што „Прасьвета“ вырасла акурат на тым самым груньце, што і павлюкевічаўская „Часовая Рада“, і абедзьве ўстановы выпаўнялі і выпаўняюць аднолькавыя заданьні, дыктаваныя аднэй і тэй-жа рукой: рукой таго, хто корме іх „казённымі бутэрбродамі“. Апошняе выступленьне віцэ-старшыні „Прасьветы“, Більдзюкевіча, супольне з Павлюкевічам проці Бел. Нац. Камітэту на страніцах польскае газэты „Kur. Wil.“—найлепшы доказ гэтага!

Дык выступленьне проці „доктара“ Павлюкевіча таго ягонага супрацоўніка, які сам-жа гэтак доўга працаваў над пашырэньнем сярод беларусаў (праз газэту „Грам. Голас“) пакупной „ідэалёгіі“ Павлюкевіча, набірае асаблівага значэньня і — пікантнасьці! Ролі гэтае, як відаць, п. Косьцевіч урэшце сьцярпець ня здолеў і расстаўся з „доктарам“. Што-ж: хоць і позна,—ды лепш позна, чым ніколі!..

# Карэспандэнцыі.

## Маскоўская закваска па Палесьсі.

(З Пінску).

2 студзеня 1926 года ў Пінскім тэатры адбыўся канцэрт-вечар, арганізованы Пінскім аддзелам **„Русскаго Благотворительнаго Общества“** (адказны загадчык п. Катовіч) з культурна-асьветнаю мэтаю, бо-ж ведама, што гэтае **„Общество“** апякуецца Расейскім Рэальным Вучылішчам у Пінску. Ішоў я на гэты канцэрт, спадзяючыся ўбачыць сапраўдных расейскіх дзеячоў на Палесьсі. Зацікаўленьне ўсіх, відаць, было вялікае, бо тэатр быў поўны—шмат моладзі, нямала было і „меншасьці“. Салю здобіў кіоск-„теремок“ з пеўнікамі, — больш падобны на вясковую палескую хату, чым на „терем“.

Пяяў хор (царкоўны) пад рэгентураю Жахлевіча расейскія песьні. Хоць слабенькі хор, але пяяў складна. Прыемна было бачыць на сцэне сваіх жыхароў Пінска. Артыст Бэноні сваім сьпевам зьбіраў шчырыя воплескі публікі (ён, відаць, быў тым магнітам, што напоўніў увесь тэатр). Пяяў ён арыі з расейскіх опэр, расейскія песьні, пробаваў паітальянску і папольску. На йскрыпках і басэтлі йгралі ў чатырох „паны“,—быццам вялікія артысты, але шум і гоман салі быў галасьнейшы за іх музыку. Добра завівалася (каб ня зьмерзнуць) паненка па сцэне ў скоках, не падобных ні на „лявоніху“, ні на „гапака“. — Было весела... Па канцэрце скокі. Буфэт—„выскаковы“.

Але аднаго не хапала ім—гэта свайго роднага духу. Прыглядзіўшыся лепш да арганізатараў, рэгента, пеўчых, артыста і публікі (акром „паноў“), відаць было, што гэта людзі ўсё свае—беларусы, але ў чужой вопратцы. Сьвядома ці несьвядома служаць яны чужой культуры, ідуць як-бы на павадку ў некага, а іх стан інтэлігента адарваў іх ад сваей нацыянальнай думкі, песьні, музыкі. Хацелася заглянуць у душу кожнага з іх і спытацца: няўжо-ж там не засталося ані адненькага куточка, гдзе-б захаваўся вобраз яго блізкіх родных —бацькоў, братоў, сяброў—з сваею мовою, матыў песьні роднай маткі?

Дарма! Ня бачаць сваей здрадніцкай дарогі, па якой самі йшлі,—няхай-бы—(гарбатага магіла паправіць)! Але яны цягнуць за сабою й малодае пакаленьне.

Гэта хіба ніколі не даруецца!..

**Пінчук.**

## Перасьцярога.

(З Вялейшчыны).

Браты беларусы! Асьцерагайцеся ваўкоў у авечых вопратках, бо яны ўжо ізноў падыходзяць да нас.

Я хачу вам сказаць, як яны робяць гэты падход. Рэдакцыя газэты „Навіны Людовэ“ прыслала амаль ня ўсім абвадовым старастам нашай Гарадоцкай гміны шмат адозваў дзеля пашырэньня іх сярод нашых грамадзян. Прадбачачы разьвязаньне цяперашняга Сойму, рэдакцыя названай газэты стараецца падрыхтаваць нашых грамадзян да новых выбароў у Сойм. Выбраны тры „найлепшыя“ партыі: „Пяст“, „Вызваленьне“ і „Звёнзэк Хлопскі“. Толькі гэтыя тры партыі могуць нас „ашчасьлівіць“, кажа адозва, а калі яны дагэтуль нічога не зрабілі, дык дзякуючы толькі таму, што ня маюць большасьці ў Сойме.

Проста сьмех з вар'яцтва і нахальства выдаўцоў гэтай адозвы. Ці-ж нам ня ведама, як гэтыя партыі апекаваліся намі, калі ў Сойме праходзіў закон аб асадніках на Крэсах,—г. з. у нас? Паслы гэтых партыяў першыя галасавалі, каб уся наша зямелька была аддана асаднікам. Калі праводзіўся закон аб праве карыстаньня роднай мовай у школах і наагул у жыцьці, дык правадыр партыі „Вызваленьня“ Тугут апрацаваў з панамі Грабскімі такі „пекны“ закон, што мы і дагэтуль ня толькі ня маем школ у роднай мове, але навет некалькі істнаваўшых на той час беларускіх школ польскімі ўладамі зачынены. За карыстаньне роднай мовай у ўрадавых установах прыходзіцца часта чуць зьдзекі і насьмешкі. Калі праз чатыры гады соймавай працы нас невінаватых арыштовывалі, катавалі, зьдзекаваліся над намі, як хацелі,—ці заступіўся за нас хоць адзін пасол з гэтых партыяў? Сьмела можна адказаць, што не!

Дык вось цяпер, калі трэба заўсёды быць гатовымі да новых выбараў у Сойм, нам трэба быць асьцярожнымі і блізка не падпускаць ваўкоў у авечых вопратках, як гэта было перад першымі выбарамі ў Сойм. Мы пераканаліся, хто наш запраўдны зашчытнік і хто нам хоча дабра.—Гэта— радыкальныя нашы паслы-беларусы, стварыўшыя цяпер Беларуск. Сялянска-Работніцкую Грамаду! За іх і павінны мы аддаць свае галасы.

Адозвы нашых злачынцаў, я думаю, не абмінуць усяго абшару Беларусі, але яны не павінны сярод нас мець ніякага ўплыву, дзеля чаго я і перасьцерагаю сваіх братоў-беларусоў.

**Беларус.**

# З Радавае Беларусі.

## Каштарыс БДУ на 1925 — 26 акадэмічны год.

На бягучы 1925—1926 акадэмічны год каштарыс Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску складзены ў суме 74.000 руб.

## Курсы па беларусізацыі.

СНК зацьвярдзіў прадстаўлены Нар. Каміс. Асьветы праект арганізацыі сеткі курсаў па беларусізацыі цэнтральных і акруговых установ з аднясеньнем расходаў на гэтыя курсы за кошт тых установ, пры якіх яны будуць працаваць.

## Беларускі рух у Гомельшчыне.

Праца на роднай мове сярод беларускай моладзі ў Гомельшчыне ў першую чаргу пачалася ў камсамольскіх ячэйках. Ячэйкі выносяць пастановы аб паступовым пераводзе працы ячэйкі РЛКСМ на беларускую мову (Аннапольле, Захарпольле, Рэчкі). У ячэйках арганізуюцца гурткі для вывучэньня гісторыі Беларусі і рэвалюцыйнага руху. Адначасова ячэйкі займаюцца вывучэньнем літэратурнай беларускай мовы.

Як бачым, адраджэнскі рух пашыраецца ўсьцяж і за межамі БСРР, у склад якое Гомельшчына не ўвайшла.

## Сельска-гаспадарчая каапэрацыя.

У межах Радаве Беларусі на першае студзеня 1925 г. было с. г. аб'яднаньняў 889 з лікам сяброў у іх 48.000 і паявым капіталам 162.000 руб.

## Зьмяншэньне сельска-гаспадарчага падатку.

У 1924—1925 годзе на адну гаспадарку прыходзілася ў сярэднім 17 руб. 29 кап., на аднаго едака 3 р. 10 к., на адну акладаемую адзінку 2 р. 70 кап. падатку. У 1925—1926 годзе на адну гаспадарку прыходзіцца ў сярэднім—12 р. 17 к., на едака 2 р. 25 к., на абкладаемую адзінку 2 р. Мы маем тут значнае зьмяншэньне.

## На падмогу сялянству.

Савет Народных Камісараў пастанавіў, што ўсе пазыкі, якія зварочваюцца сялянствам, павінны паступаць у Беларускі сельска-гаспадарчы банк, у спэцыяльны фонд ураду БССР на крэдытаваньне населеньня, якое праводзіць земляўпарадкаваньне, а таксама на разьвіцьцё агнястойкага будаўніцтва.

## Цэны зернавых прадуктаў.

Аб цэнах зернавых прадуктаў у Радавай Беларусі дае паняцьце ніжэйпаданая таблічка, у якой цэны паказаны ў рублях і капейках (золатам)—за 21 сьнежня леташняга году:

| ПУД | Жыта | Пшаніца | Авёс | Ячмень | Мука жытн. | Мука пшан. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Менск | 1.25 | 1.50 | 1.00 | 1.20 | 1.60 | 4.40 |
| Барысаў | 1.40 | 1.65 | 1.10 | 1.25 | 1.60 | 5.00 |
| Віцебск | 1.45 | — | 1.00 | 1.45 | 1.60 | 4.70 |
| Клімавічы | 1.05 | — | 90 | 92 | 1.60 | 5.00 |
| Магілеў | 1.20 | 1.40 | 85 | 1.05 | 1.40 | 4.80 |
| Орша | 1.15 | 1.30 | 85 | 1.10 | 1.45 | 4.80 |
| Полацк | 1.62 | 1.67 | 1.05 | 1.27 | 1.90 | 4.55 |
| Слуцк | 1.10 | 1.60 | 1.00 | 95 | 1.30 | 3.80 |

Такім чынам, самым танным па цэнах на зернепрадукты зьяўляецца г. Клімавічы; за ім ідуць Слуцк, Орша, Магілеў і г. д., а найдаражэйшы—Полацк.



Рэдактар Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.